



## Декабрь

За три дня до декабря
Штормы налетели,
На душе опять хандра —
Скоро уж метели.

Но они не заметут
Нашу с тобой песню,
И морозы подождут,
Потому, что вместе

Дружно встретим мы его,
Выйдем на дорогу,
Заждались тебя давно,
Стоя на пороге.

Ты последний уж в году,
Позабытый месяц,
В Новый год с тобой войду —
Радостно на сердце!

Я опять по снежным лужам
На свидание спешу,
То ли с ветром, то ли с Музой —
Вас обоих обниму.

Нету месяца на свете
Драгоценней декабря,
Пусть сильнее солнце светит,
В Новый год нас уводя!

## Январь

Январь, подожди, не спеши уходить,
Я еще не успел свою жизнь оценить,
Я сражался, как мог, за здоровье людей.
И природу берег, пуще милых очей.

И народ мне ответил теплом своих глаз,
И природа шепнула мне тысячу раз,
Ты спасение наше, наш верный поэт,
Мы желаем, чтоб жил ты всю тысячу лет!

А теперь, мой январь, ты уже уходи,
Мои мысли, поступки на верном пути,
Ты был для меня целый месяц, как Бог,
Я духом воспрял — ты мне в этом помог!







## Грамніцы

Люты месяц на двары —
Але ў ім грамніцы,
Адыходзяць халады,
Певень п'е вадзіцу.

І сасулькі, як арган
Весела іграюць,
І ўдалечы туманы
З поля наплываюць.

Я ўмыю сябе з лужы
Самай чыстаю вадой,
Цэлы год я буду дужы,
І са светлай галавой.
Я апошнюю завею
Намалюю для цябе,
Каб ты летам разам з ёю
Ўспамінала пра мяне.

І праз некалькі імгненняў
Так чаканая вясна,
Нас сустрэне, на здзіўленне,
Каля нашага вакна!

## Сакавік

Ноччу снег яшчэ трушыць,
Днём пральецца дожджык.
То прырода варажыць,
Каб зіму прадоўжыць.

Але сонца-гаспадар
Той сняжок растопіць,
І ў душы маёй пажар
Разгарэцца просіць.

Адыйшла ўся хандра,
Радасна на сэрцы,
І сяброўачка-вясна
Весела смяецца.

Уся прырода ажыла,
Весяляцца кошкі.
Просіць у мяне вясна
Закахацца трошкі.

Я прымаю гэты дар
З чыстаю душою,
Пагашу я твой пажар,
Сэрца заспакою.

Каб да будучай вясны
Ты была прыгожай,
І прыходзіла ў сны
Сэрца ўстрывожыць.



*Да 80-годдзя школы ў Яцкавічах*

# «Каб беларусамі звацца»

**Са школай ў вёсцы Яцкавічы Брэсцкага раёна звязана жыццё вялікай колькасці яе выхаванцаў і выкладчыкаў, бо працуе яна ўжо на працягу 80 гадоў. 27 мая бягучага года ДУА «БШ в. Яцкавічы» адсвяткавала сваё 80-годдзе.**

У лютым 1919 г. заходнія вобласці Беларусі былі занятыя польскімі войскамі. На гэтай тэрыторыі быў уведзены новы адміністратыўны падзел на акругі, ваяводствы, паветы, гміны. Ствараліся польскія органы ўлады і самакіравання: ваяводскія праўленні, павятовыя старосты, гмінныя праўленні. Вёска Яцкавічы (Jackowicze) пасля ўваходжання Заходняй Беларусі ў склад Польшчы апынулася на тэрыторыі Матыкальскай гміны Брэсцкага павета, які ў 1919 г. увайшоў у склад Брэсцкай акругі, а ў лютым 1921 г. быў далучаны да Палескага ваяводства. Пасля падпісання Рыжскай мірнай дамовы 1921 г. польскія ўлады пачалі займацца ўладкаваннем сістэмы школьнай адукацыі такім чынам, каб яна адпавядала патрабаванням стратэгічнага напрамку палітыкі польскай улады на заходнебеларускіх землях — палітыкі паланізацыі беларускага насельніцтва. Поспехі ў ажыццяўленні палітыкі паланізацыі ў значнай ступені залежалі ад стану адукацыі. Прыгадаем, што ў Польшчы пачатковае навучанне дзяцей з 7-гадовага ўзросту заканадаўча было абвешчана абавязковым.

На стане сістэмы школьнай адукацыі заходнебеларускіх земляў не маглі не адбіцца разбуральныя падзеі Першай сусветнай і савецка-польскай (1919–1921 гг.) войнаў, таму яе ўладкаванне вымагала ад польскіх уладаў вялікіх высілкаў. Значная частка мясцовага насельніцтва была непісьменнай, большая частка школьных будынкаў, якія існавалі да вайны, застаўшыся ў спадчыну ад Расійскай імперыі, былі часткова або цалкам зруйнаваны падчас ваенных дзеянняў, не хапала настаўніцкіх кадраў, здольных выкладаць у польскамоўных школах. Патрабавалася не толькі пабудаваць значную колькасць новых агульнаадукацыйных школ з польскай мовай выкладання і новым зместам вучэбна-выхаваўчага працэсу, але і забяспечыць гэтыя школы педагагічнымі кадрамі, здольнымі ажыццяўляць выкладанне адпаведна патрабаванням польскай сістэмы навучання.

Па-першае, на заходнебеларускіх землях была створана адміністратыўная аснова для кіравання дзяржаўнымі, прыватнымі агульнаадукацыйнымі і прафесійнымі навучальнымі ўстановамі, а таксама дашкольным выхаваннем і пазашкольнай адукацыяй. На падставе распараджэння Рады Міністраў Польшчы ад 8 лютага 1921 г. на тэрыторыі Палескага ваяводства была ўтворана Палеская школьная акруга. Для кіравання дзейнасцю павятовых школьных інспектаратаў, кіраўніцтва дзяржаўнымі і прыватнымі агульнаадукацыйнымі і прафесійнымі навучальнымі ўстановамі, дашкольным выхаваннем і пазашкольнай адукацыяй у Палескай школьнай акрузе была ўт-

ворана Дэлегатура Палескай школьнай акругі, на чале якой стаяў дэлегат (прызначаўся Міністэрствам веравызнанняў і грамадскай адукацыі ў Польшчы). Адпаведна распараджэнню Рады Міністраў Польшчы ад 12 красавіка 1922 г. Дэлегатура Палескай школьнай акругі была пераўтворана ў Папячыцельства Палескай школьнай акругі. Яго дзейнасць распаўсюджвалася на тэрыторыю Палескага ваяводства, а таксама Баранавіцкі, Нясвіжскі і Стаўбцоўскі паветы Навагрудскага ваяводства. На падставе распараджэння Міністэрства веравызнанняў і грамадскай адукацыі ад 7 ліпеня 1932 г. былі ўнесены змены ў сетку школьных акругоў — у т. л. была ўтворана Брэсцкая школьная акруга, якая распаўсюджвала сваю дзейнасць на Палескае ваяводства і шэраг паветаў Беластоцкага ваяводства, а Папячыцельства Палескай школьнай акругі было рэарганізавана ў Папячыцельства Брэсцкай школьнай акругі (Kuratorjum Okręgu szkolnego Brzeskiego w Brzesćiu n /Bug.), якое знаходзілася ў г. Брэсце над Бугам. Менавіта гэты орган ажыццяўляў кіраўніцтва дзейнасцю павятовага школьнага інспектарату, дзяржаўных і прыватных агульнаадукацыйных і прафесійных навучальных устаноў на тэрыторыі Брэсцкага павета.

Адпаведна распараджэнню Генеральнага камісара ўсходніх земляў Польшчы ад 6 лістапада 1919 г. ва ўсходніх ваяводствах у кожным павеце былі ўтвораны павятовыя школьныя інспектараты на чале з павятовымі школьнымі інспектарамі, якія падначальваліся Палескаму акруговаму школьнаму інспектару. Адпаведна, з лютага 1921 г. павятовыя школьныя інспектараты падначальваліся Дэлегатуры Паласкай школьнай акругі, з красавіка 1922 г. — Папячыцельству Палескай школьнай акругі, а з ліпеня 1932 г. — Папячыцельству Брэсцкай школьнай акругі. Паводле распараджэння Прэзідэнта Польшчы ад 4 чэрвеня 1933 г. школьныя акругі былі падзелены на школьныя раёны, якія ахoплівалі тэрыторыі аднаго або некалькіх паветаў, у кожным раёне дзейнічаў школьны інспектарат на чале з інспектарам. У межах Брэсцкай школьнай акругі быў утвораны Брэсцкі школьны раён (для Брэсцкага павета). Школьны павятовы інспектарат ажыццяўляў адміністрацыйнае і педагагічнае кіраўніцтва агульнаадукацыйнымі школамі і пазашкольнай адукацыяй на тэрыторыі раёна, назіраў за дзейнасцю прыватных вучэбна-выхаваўчых устаноў на курыруемай інспектаратам тэрыторыі.

Дакументы, якія захоўваюцца ў Дзяржаўным архіве Брэсцкай вобласці, дазваляюць атрымаць пэўныя звесткі аб стане школьнай адукацыі на тэрыторыі Матыкальскай гміны. У «польскі час» працавалі агульнаадукацыйныя пачатковыя школы (у большасці сваёй гэта былі 1-класныя з 1 настаўнікам або 2-класныя з 2 настаўнікамі) у вёсках Матыкалы Вялікія (Motykaly Duże) — 2-класная, Скокі (Skoki) — 3-класная з 3 настаўнікамі, Клейнікі (Kleniki) — 1-класная, Церабунь (Terebuń) — 2-класная, Кустынь (Kustyń) — 2-класная, Нехалсты (Niechołsty) — 2-класная, Лышчыцы (Łyszczyce) — 1-класная, Вістычы (Wistycze) — 2-класная, Неплі (Neple) — 1-класная, Астрамечава (Ostromeczewo) — 5-класная, Шчытнікі Малыя (Szczytniki Małe) — 1-класная, Сегенеўшчына (Siecheniewszczyzna) — 1-класная, а таксама ў вёсках Кавердзякі (Kowerdziaki), Пяскі (Piaski), Сухарэвічы (Suchorewicze), Маразовічы (Mrozowicze), Янава (Janowo), Костычы (Kostycze), Малыя Зводы (Zwody Male), Сычы (Sycze). Працавала школа і ў вёсцы Яцкавічы. Частка школ, як напрыклад, школы ў в. Матыкалы, Астрамечава, Церабунь, Вістычы, Кустынь змяшчалася ў гмін-

ных будынках. Але ў многіх вёсках уласных будынкаў школ не было (Яцкавічы, Клейнікі, Нехалсты, Шчытнікі Малыя, Лышчыцы, Неплі і інш.). З-за адсутнасці ўласных будынкаў навучанне вялося ў з'ёмных будынках, за наём якіх гміннае праўленне вымушана было плаціць немалую арэндную плату. Да прыкладу, па стану на верасень 1931 г. гмінным праўленнем Матыкалы арандавалася 8 школьных будынкаў. З гміннага бюджэту рабіліся выдаткі і на такія патрэбы школьніцтва, як рамонт школьных памяшканняў, закуп мэблі, закуп паліва для школьных печаў (па стану на 1931 г. налічвалася 37 школьных печаў) і асвятленне, падтрыманне чысціні, пісьмовыя матэрыялы і навучальныя дапаможнікі для школ, будаўніцтва школ або набыццё ўжо існуючых будынкаў для школ. Так, у 1931 г. была ўзведзена 1-класная школа ў Сегенеўшчыне Матыкальскай гміны, кошт будовы якой склаў больш за 6000 злотых.

Для забеспячэння сістэмы школьнай адукацыі польскамоўнымі настаўніцкімі кадрамі ў Заходнюю Беларусь накіроўваліся настаўнікі польскага паходжання. Настаўнікам-палякам, прыязджаўшым працаваць у вёскі Матыкальскай гміны і не меўшым уласнага жылля, выплочвалася з гміннага бюджэту спецыяльная субсідыя на пакрыццё жыллёвых расходаў (dadatek mieszkaniowy dla nauczycieli). У той жа час мясцовыя настаўнікі, пражываўшыя на тэрыторыі Матыкальскай гміны, не заўсёды былі забяспечаны працай. Так, у адным з дакументаў, які трапіў у рукі аўтараў, распавядалася аб тым, што жыхар калоніі Нехалсты — настаўнік Слівінскі Павел, меўшы на ўтрыманні 3 дзяцей і жонку, застаўся без працы і, увогуле, без сродкаў для існавання (бо не меў зямельнай уласнасці). Гміннае праўленне, праўда, імкнучыся яму дапамагчы, звярталася з просьбай у Павятовы камітэт дапамогі беспрацоўным у Брэсце над Бугам — каб выклапатаць дазвол на прыняцце гэтага чалавека на працу ў Матыкальскае гміннае праўленне і выдзяленні адпаведнай квоты на выплату яму зарплаты.

Паводле архіўных дадзеных у 30-я гады XX ст. у склад грамады Яцкавічы ўваходзілі наступныя населеныя пункты: вёска Яцкавічы (у ёй пражывала 625 жыхароў), фальварак Чарвінцы (folw. Czerwince) — 3 жыхары, хутар Юльянава (Juljanowo futor) — 16 жыхароў, калонія Міхалін (kolonja Michalin) — 112 жыхароў, калонія Верабʼёва (Worobjewo) — 22 жыхара. Разам колькасць жыхароў грамады складала 778 чалавек, а іншы раз і больш за 800. Жыхарамі вёскі былі: Юзеф Тарнавецкі, Шумавец Емельян, Хвісюк Мікіта, Вінцэнт Пецык, Ян Белік, Сільвестр Са-

Праект будынку школы ў Яцкавічах 1936 г.



цюк, Тэадор Кузюк, Теадор Хамічук, Панцелеймон Еўдачук, Ян Валчынскі, Рыгор Дарашук, Сцяпан Нічыпарук, Рыгор Дабышук, Леон Дзем’янюк, Навум Парфамук і інш. Солтысам грамады Яцкавічы з 15.05.1929 г. быў Рыгор Ярмалюк (Grzegorz Jarmoluk), мясцовы гаспадар, які меў 5,5 дзесяцін зямлі і па тых часах лічыўся малазямельным селянінам. Рыгор Ярмалюк меў пачатковую адукацыю, быў праваслаўным і пачаў выконваць абавязкі солтыса ў даволі маладым узросце — яму было 30 гадоў.

Сярод жыхароў грамады Яцкавічы мелася даволі вялікая колькасць дзяцей школьнага ўзросту. Але, ўласнага будынку школы да 1937 г. не існавала. З 1932 па 1935 гады дзецям школьнага ўзросту прыходзілася наведваць школу ў вёсцы Кустынь. А з 1935 па 1937 гады школьныя заняткі праходзілі ў сялянскай хаце Шпыркоўскага Гардзея ў самой вёсцы Яцкавічы. Да рэчы, Шпыркоўскі Гардзей пэўны час працаваў настаўнікам Яцкавіцкай школы, і выкладаў ён да 1939 года.

Відавочна, што існавала патрэба ва ўласным будынку пачатковай школы агульнага навучання ў вёсцы Яцкавічы. Улічваючы наяўнасць такой патрэбы, праўленнем Матыкальскай гміны было накіравана паданне ў Палескае ваяводскае праўленне аб атрыманні дазволу на будаўніцтва агульнаадукацыйнай 2-класнай школы ў вёсцы Яцкавічы. Папячыцельствам Брэсцкай школьнай акругі былі ўнесены прапановы да праекту будаўніцтва 2-класнай Яцкавіцкай школы агульнага навучання. Урэшце, Палескае ваяводскае праўленне ў ліпені 1936 г. зацвердзіла праект будаўніцтва і выдала дазвол на пабудову школы ў Яцкавічах. У пісьме кіраўніка камунікацыйна-будаўнічага аддзелу Палескага ваяводскага праўлення К. Сакалоўскага ад 30.07.1936 г., накіраванага ў праўленне гміны ў Матыкалах Брэсцкага павета і Папячыцельству Брэсцкай школьнай акругі ў Брэсце над Бугам наконт будаўніцтва школы ў Яцкавічах гаварылася аб тым, што дазвол на будаўніцтва згубіць сваю моц, калі на працягу бліжэйшых 2 гадоў не будуць распачаты будаўнічыя работы або пасля іх пачатку на працягу двух гадоў будуць часова прыпыненыя. Да таго ж нагадвалася, што пасля заканчэння будаўніцтва школы гміннаму праўленню належала яшчэ зрабіць адну працэдуру — выклапатаць асобны дазвол Палескага ваяводскага праўлення на выкарыстанне гэтага будынку.

На малюнку праекта бачна, што з паўночнага боку школа размяшчалася недалёка ад дарогі. Акрамя будынку самой школы праектаваліся яшчэ гаспадарчы будынак і студня (калодзеж). Навокал (на поўдзень, захад і ўсход) распасціраліся ворныя землі сялянаў грамады вёскі Яцкавічы.

Будаўніцтва школы ў Яцкавічах было распачата і амаль завершана ў тым жа самым 1936 г. Але, нягледзячы на тое, што асноўныя будаўнічыя работы былі выкананы, з-за недахопу сродкаў заставаліся пэўныя недаробкі, невыкананыя яшчэ і ў 1937 г. У школе, напрыклад, не хапала агароджы. З гэтай нагоды сяляне грамады вёскі Яцкавічы прынялі рашэнне ўхвалой грамадскай рады ад 02.10.1937 г. выдзяліць 270 злотых на агароджу школьнага плацу (гэтае рашэнне было пазней ухвалена гміннай радай Матыкальскай гміны). З пратаколу паседжання гміннай рады гміны Матыкалы ад 21 снежня 1937 г., знойдзенага ў Дзяржаўным архіве Брэсцкай вобласці, даведваемся і аб тым, што гмінная рада (адпаведна ўхвалы гміннага праўлення ад 15.12.1937 г.) таксама разглядала пытанне аб доўгатэрміновай пазычцы памерам 12000 злотых на заканчэнне будаўніцтва школ у Вістычах, Лышчыцах і



1938 г. Пан кіроўца Ечань Станіслаў і яго жонка пані Козніцкая ў асяроддзі вучняў Яцкавіцкай школы, якія скончылі другі клас. Дзеці з в. Яцкавічы размясціліся злева і па цэнтры, дзеці палякаў — справа. Другі шэраг зверху, трэцяя злева — Дабышук Лідзія Міронаўна (працавала настаўнікам рускай мовы і літаратуры, а таксама дырэктарам Яцкавіцкай васьмігадовай школы з 1972 па 1983 гг.)

Яцкавічах (у Вістычах адсутнічалі падлогі, столі, печы, сталярка, зашкленне і агароджа, у школах вёсак Яцкавічы і Лышчыцы, пабудаваных у 1936 г., не было тынкоўкі, апалубкі і інш.). Паколькі гмінны бюджэт не прадугледжваў выдаткаў на заканчэнне будаўніцтва школ у Вістычах, Лышчыцах і Яцкавічах, то гміннай радай было прынята рашэнне звярнуцца да Таварыства падтрымкі публічных агульнаадукацыйных школаў з просьбай аб выдачы доўгатэрміновай пазыкі у памеры 12000 злотых. Адпаведна, гмінная рада абавязалася прадугледзець у гмінным бюджэце выплату гэтай пазыкі. Для выканання ўсялякіх фармальнасцяў, звязаных з атрыманнем гэтай пазычкі, упаўнаважвалася гміннае праўленне. Так, дзякуючы намаганням гміннай рады і гміннага праўлення будаўніцтва пачатковай школы ў Яцкавічах, урэшце, было завершана. У справаздачы гміннага праўлення за 1937/1938 г. гаворыцца аб заканчэнні будаўніцтва школы ў Яцкавічах. І новапабудаваная пачатковая школа ў Яцкавічах у 1937 г. упершыню адчыніла свае дзверы для сваіх вучняў.

Школа знаходзілася на ўтрыманні гміннага праўлення. І, паколькі школа ацяплялася пячным ацяпленнем (а ў Яцкавіцкай школе было аж 5 печак), кошт паліва для школы пакрываўся выдаткамі гміннага праўлення. Так, у 1937/1938 г. для ацяплення ў халодны перыяд было выдзелена паліва коштам 220,70 злотых. Гмінным праўленнем пакрываліся расходы на аплату працы школьных старажоў, падтрыманне чысціні, на набыццё канцэлярыйных матэрыялаў і навучальных дапаможнікаў. Вучні вывучалі польскі язык, арыфметыку і геаметрыю, праводзіліся заняткі па маляванню, спевам, фізічнай культуры, рэлігіі, практычныя заняткі (у сучасным разуменні — трудавое навучанне). Яшчэ сёння ў вёсцы Яцкавічы можна знайсці сведкаў, якія захоўваюць успаміны аб польскім перыядзе існавання школы. Так, былая вучаніца Яцкавіцкай школы Дабышук Лідзія Міронаўна (1928 г. н.)


ŚWIADECTWO SZKOŁY POWSZECHNEJ

Stelmaszuk Maria

urodzona dnia 2 listopada 19[illegible] r. w Jackowiczach
powiatu brzeskiego, religii (wyznania) prawosławnego
uczęszczała do klasy drugiej i otrzymała
za rok szkolny 1937/38 oceny następujące:

| | |
|---|---|
| sprawowanie | bardzo dobry |
| religia | bardzo dobry |
| język polski | bardzo dobry |
| język | — |
| historia | — |
| geografia | — |
| nauka o przyrodzie | — |
| arytmetyka z geometrią | bardzo dobry |
| rysunki | bardzo dobry |
| zajęcia praktyczne | bardzo dobry |
| śpiew | bardzo dobry |
| ćwiczenia cielesne | bardzo dobry |

Opuściła dni szkolnych 2, w tym nie usprawiedliwiono 0

Na tej podstawie przechodzi do klasy trzeciej z wynikiem pomyślnym.

Publiczna Szkoła Powszechna stopnia pierwszego

w Jackowiczach (powiat brzeski)
dnia 21 czerwca 1938 r.

Nr 30

Opiekun klasy — Kierownik Szkoły

Skala ocen: bardzo ... dostateczny, niedostateczny.

Cena 8 gr

Атэстат вучаніцы пачатковай школы вёскі Яцкавічы Стэльмашук Марыі за 1937/1938 навучальны год, выдадзены пасля заканчэння другога класа

падзялілася ўспамінамі аб тым, як пры паляках кармілі дзяцей у школе: «Дзеці павінны былі прыносіць з сабой у школу хлеб і лыжку, а ў школе ім налівалі кожны дзень рыбін тлушч, які яны заядалі сваім хлебам». Так што паўнавартаснага харчавання ў школе ў тыя часы не было. Сілкаваліся вучні адным толькі рыбім тлушчам. У Яцкавіцкай школе існавала невялічкая бібліятэка. Улічваючы тую акалічнасць, што на тэрыторыі гміны Матыкалы бібліятэк было вельмі мала: гміннай бібліятэкі не было, існавала бібліятэка пры Доме людовым ў Лышчыцах (там праходзілі канцэрты і прадстаўленні) і рухомая бібліятэка, то для вясковых жыхароў гміны Матыкалы школы былі своеасаблівымі асяродкамі культуры, адукаванасці і духоўнасці.

Першым кіраўніком-дырэктарам школы быў Пфайфер Юзаф. Яго змяніў Ечань Станіслаў (Jeczeń Stanisław). Дырэктар жыў пры школе. У жылыя памяшканні Пана кіроўцы і яго сям'і ў будынку школы меўся асобны ўваход. Вядома, што ў «польскі час» адным з настаўнікаў у школе быў Гунька Карол (Guńka Karol). Дарэчы, школьны настаўнік Карол Гунька узначальваў пажарную дружыну вёскі Яцкавічы, якая была ўтворана ў 1930 г. У яе склад уваходзіла 15 чалавек — жыхароў вёскі, сакратаром лічыўся Ян Гаеўскі, скарбнікам — Платон Федацюк. Добраахвотныя пажарныя дружыны, якія арганізоўвалі супрацьпажарную ахову, у тыя часы былі амаль у кожнай вёсцы. Пажары ў вёсках, якія амаль цалкам былі драўлянымі, былі нярэдкай з'явай, пагражаючай цяжкімі наступствамі. Усе вясковыя пажарныя дружыны падначальваліся Акруговаму саюзу пажарнай аховы ў Брэсце над Бугам.

Пасля ўсталявання савецкай ўлады ў 1939 годзе школа працягвала працаваць, і працавала яна да 1941 г. У час Вялікай Айчыннай вайны школа з перапынкамі, але, усё ж, зноў працягвала навучанне. І, паколькі в. Яцкавічы была аднесена да тэрыторыі рэйхскамісарыята «Украіна», то новыя акупацыйныя ўлады патрабавалі весці выкладанне на ўкраінскай мове. У 1944 г. у будынку школы размясціўся нямецкі шпіталь, у сувязі з чым школьныя заняткі прыпыніліся. Вядомы імёны выкладчыкаў, якія працавалі ў Яцкавіцкай школе падчас вайны і адразу пасля яе заканчэння — гэта былі мясцовыя жыхары Дабышук Васіль і Тарнавецкі Юзаф. Школа зноў аднавіла сваю дзейнасць і пасля заканчэння вайны, працуючы да сягонняшняга часу ўжо без перапынкаў. Вельмі хочацца спадзявацца, што і надалей яна будзе расчыняць свае дзверы для вучняў, сучасных і былых!

*Аўтары:*
*Аляксандр Раманавіч КІРЫКОВІЧ — дырэктар ДУА «БШ в. Яцкавічы»*

*Наталля Яўгеньеўна ДЗЯДЗІЧКІНА — кандыдат гістарычных навук*

*Научный поиск*

# Открыта тайна захоронений возле Свято-Михайловской церкви в Остромечево

Знакомство с одной старинной книгой позволило мне установить, что наша Остромечевская церковь была построена в 1840 году, в то время как до 2016 года официально считалось, что она построена в 1846... Привожу дословно несколько строк из книги «Гродненский православно-церковный календарь. ПРАВОСЛАВІЕ въ Брестско-Гродненской земле въ конце XIX вѣка», Воронеж, издание 2-е, Том I, стр. 340–341:

*«Въ Остромечеве, берестейского уезда, Высоколитовского благочинія, в приходской церкви. Церковь каменная с таковою же колокольней, в каменной ограде, — сооружена в 1840 году помещицей Анной Сузиной. — Отстоит от Берестья в 21 версте...».*

Моя детская любознательность иногда удовлетворялась немудреными рассказами моих уважаемых земляков и родственников, окончивших народное училище еще в конце XIX века. Это Кравчук Силуан, Павлючик Никита, участник Порт-Артурского сражения 1905 года, Шиш Пелагея, мой прадедушка Андрей

Свято-Михайловская церковь. Построена на средства Анны Сузин и пожертвования прихожан деревень Плянты, Остромечево, Морозович, Огородников, Бояр, Лыщиц и Кошилова



Феодосьевич Ляшук (Панасюк) и некоторые другие. Они терпеливо отвечали на мои, может быть, по-детски наивные вопросы. Была в их ответах одна общая деталь, которая повторялась в рассказах каждого, это то, что нашу церковь построили Антоний и Анна Сузины, которые жили в поместье, рядом с деревней Плянта *(сегодня улица Дружбы в Остромечеве)*. Эта была зацепка, которая сохранилась моей детской памятью. Уже во время работы над вторым сборником в интернете извлек один документ, называемый фундушем, в котором шла речь о Сузиных, как оказалось предках Антония, Людвика, живших в нашем селе еще в 1670–1740 годы. Михаил Сузин со своей супругой, тоже Анной *Сузиной (из Сераковских)*, в 1720 году выделили деньги на постройку церкви, я ее называю 2-м зданием, потому что в 1655/60 годах была еще одна церковь. Обе они были униатские и построены из дерева. Привожу маленький отрывок:

***«Фундушевая запись на Остромечевскую церковь***

(Года тысяча семьсот тридцать восьмого, месяца июля, семнадцатого дня).

*...Конюший Брестского воеводства, Михаил Станислав Сузин, вместе с супругою своей Анною (из Сераковских) построили в своем имении Остромечеве, в Брестском воеводстве, и с благословления Леона Кишки, митрополита всея Руси, поставили в ней священника греческаго исповедания. Для обеспечения, как настоящего ея священника, так и его преемников, владельцы отделяют от своего имения две литовских (у)волоки (21,31 га) земли и четверть уволоки (5,31 га) на причетника и других церковных слуг. Кроме того, владельцы единовременно снабжают новую церковь всем, что необходимо для нея по греческому обряду, чашами, колоколами, хоругвями, и так подальше. Получив еще от них право варить пиво и гнать водку для домашних нужд и брать торговое с ярмарок, производимых в известное время перед церковью, священники Остромечевской церкви не платят за наданные земли никаких податей. Их обязанность состоит только в том, чтобы усердно исполнять церковные службы, заботиться о народном благочестии и, молясь за своих фундаторов в каждую неделю совершать за них литургию (служба в церкви, тоже, что и обедня)...*

*...Мы, Михаил Станислав Сузин — конюший воеводства Брестского и Анна (из Сераковских), Сузина — конюша Брестская, супруги, делаем известие настоящего и будущего, Веру людям, кому об этом знать положено, иж мы посоветовавшись обоюдно, к вечной похвалы Божей умноженную, построили на наши пожертвования*

Памятник членам семьи княжеского рода Сузинов. Поставлен в 1850 году



*церковь в собственном имении нашем, названом Остромечево во воеводстве Брестском лежащее, находящееся в которой, чтобы вечные времена отправлялась хвала Богу неустанно. Решили мы к этой церкви новопостроенной — 2-е здание (значит была старая церковь — первая И. П.) установить и уфундовать т. е.* (пожертвовать — с польского fundowac И. А.) *постоянного священника или просвитера; вероисповедования греческого (Томаша Павловича)...*

*Писано в Остромечево дня двадцатого июля, года тысячного семдесятного двадцатого (1720 год — И. П.) У этого пожертвования подписы рук самих вельможных панов фундаторов, а так же пана печатника: Михаил Станислав Сузин, конюший воеводства Брестского, Анна Сузина. Устно и воочию прошеный их вельможностей панов Сузиных — супругов, конюших Брестких, свидетель: Адам из Сержпутова Сержпутовский — мечник и судья городской Брестский».*

А на маригинезе (на бумажном поле) этого фундуша при печати на лаку, красном, оттиснутой подпись рукою ясновельможного ксендза, Митрополита всея Руси, епископа Владимирского и Брестского эти слова написаны: *«Фундуш — (пожертвование) дан церкви Остромечевской от вельможных панов-фундаторов. Дан во Владимире 20 июля года Господня 1720-го, Леон Кишка — Митрополит всея Руси, епископ Владимирский и Брестский...»*

(Стилистика и орфография сохранена с источника. Полное знакомство с текстом фундуша на 3-х страницах печатного текста есть в будущем сборнике. И. П.)

***Перевод Л. К. и И. А. Панасюки***

Копия распечатана из Актов, издававшихся Виленскою археографическою комиссией. Том III. Акты Брестского Гродского суда. Вильно, 1870 года в типографии Губернского Правления. *(Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі. — Ф. 1705. Воп. 1 Спр. 54. Л. 1081–1805)*

Значит, не зарастает быльем человеческая память! Хранят потомки Сузиных и Пузынов подобные документы, оставляют своим наследникам рассказы о добрых делах, а мы имеем возможность ими пользоваться. Но была среди встретившихся мне фамилий землевладельцев нашего села Остромечево с 1516 до 1939 годы фамилия — ***Пузына.*** Опять поиски, письма, новые знакомства, обращение в Генеральное Консульство Республики Польша в Бресте. Спустя полгода получил желаемый ответ. Осталось искать рекомендованного человека по фамилии Пузына. Огромную помощь мне в этом оказала доктор филологических наук, профессор-белоруссист, известная ученая не только в Польше, но и во многих странах — Анна Энгелькинг. Она конкретно подсказала имя, фамилию одного из наследников княжеского рода Пузынов — правнука известного поэта, писателя, историка и генеалога Юзефа Эдварда Пузыны (1878–1949), родившегося в Гремячем — Юзефа Анджэя Пузыны, который проживает в Польше и с которым я второй год состою в переписке. Я очень благодарен и обязан ему за присланные материалы и воспоминания его прадедушки о селе Остромечево, где прошли детские и юношеские годы отца Ю. Э. Пузыны — Юзэфа Адольфа Мартина Пузыны (1846–1914). Признателен ему и за то, что он выразил свою искреннюю готовность поделиться со мной своими семейными архивами. В результате нашей переписки у меня сформировалось четкое представление об этом знаменитом княжеском роде *(со слов Ю. А. Пузыны, имеющих две линии — российскую и литовскую)* в хронологиче-

ском порядке об их родственных связях, об их заслугах перед землей, которая обрабатывалась, перед Родиной, в которой проживали предки Ю. А. Пузыны.

В 1840 году, в Остромечеве появился бывший полковник русской армии *литовской гвардии* (родословная из Козельска) — Юзеф Игнатий Пузына (1800–1874).

Слово Юзефу Анджэю Пузыне:

*«...позвольте мне процитировать историю нашей семьи за последние 200 лет по II-й — «литовской» линии: «Во время переделов Польши мои предки жили в районе бывшего Берестейского воеводства. Это произошло из-за моего прапрапрадеда Юзефа Игнатия Пузыны, который женился на наследнице Ostromeczewa Розалии Сузиной (1822–1908), дочери Сузина Юлиана и Анны Сузиной (О'Берн И. П.). Состояние матери своей будущей жены (т. е. тещи) явилось причиной завершения военной службы, моим предком — прапрапрадедом Юзефом Игнатием Пузыной — расставанием с императорской гвардией России в звании полковника. Он был в возрасте 40 лет, когда сменил службу военного на землевладельца. Он энергично работал и, в конце концов, семья, фортуна начали приносить солидный доход. Он пытался расширить владения, совершал покупки и аренды земли. В российском законодательстве были в те годы установлены ограничения на приобретение земли поляками, поэтому развитие активов было связано с многочисленными трудностями. От шлюба (союза) Юзефа и Розалии,* (кстати, заметьте эту дату, 20 октября 1840 года состоялось их венчание во время первой службы в новой построенной каменной Остромечевской церкви И. П.) *у Пузынов родились четыре сына: Юлиан (1843 в Остромечеве — 1918 умер, вероятно, в Нароли?), Александр Октавиан Ричард (1844 в Остромечеве — 1914 в Абазе), Юзеф Адольф Мартин (1846 в Остромечеве — 1914 в Варшаве) и Станислав Игнатий Модест (1850 в Остромечеве — 1923 в Зембове)...».*

Вот с этих пор, с 1840 года Ю. И. Пузына являлся единоличным землевладельцем в селе Остромечево, управлял имением, после его смерти управлял сын Александр Октавиан Ричард Пузына (1844–1914), с 1914 года внук Влодзимеж Юзеф Пузына (1874–1930), который еще при жизни успел продать почти все земли состоятельным жителям села Остромечево, побывавшим до 1925 года в Америке. Таковых было четверо: Иванюк, братья Веремчуки и Кузавко Никита.

Мне семь прошедших лет не давали покоя два вопроса, касающиеся церкви и *безымянного около 80 лет* памятника *с гербом «Рох-III», находящегося в 10–15 метрах, справа от входа в здание церкви).* Неожиданно я получил в очередном письме от Юзефа Анджея очень большую подсказку. Даю слово ему, а он предлагает письменное *воспоминание своего прадеда — писателя, поэта, историка, генеалога Юзефа Эдварда Пузыны (1878–1949):*

*«...что касается могил моих предков (прапрадедов), то их было ТРИ, рядом расположенных под большими бетонными плитами, на которых были выбиты имена, фамилии, даты рождения и смерти. Лежали они там одиноко на православном кладбище, (а точнее справа от входа в здание церкви) и выглядели довольно печально, но дядя (брат отца, Александр Октавиан Ричард Пузына) смотрел, чтобы они были ухожены, а жители и прихожане берегли их из-за уважения а может попривычке... И длилось все это долгие годы... Однако, в 1886 г. за ж/д ст. Лышицы проводились военные маневры), на которые собирался приехать российский император — царь Александр III. Такие маневры проводились довольно часто недалеко от*

*Бреста, где находилась одна из главных крепостей России: являющейся важным стратегическим пунктом для империи. Случилось так, что в одно из воскресений царь должен был присутствовать на службе в Остромечевской Свято-Михайловской церкви. Не знаю, был ли он или нет, но местные власти вели приготовления к его приезду. В плане было участие его в Крестном ходе вокруг церкви. Чувство ответственности заставило местные власти предположить, что «сузиновские» могильные плиты могут помешать Крестному ходу: плиты лежали близко фронтом (лицом) к стене церкви, а за ними находился крест, поэтому без долгих размышлений, не перенося прах покойников, перенесли плиты на другую сторону Креста, фронтом к каменной изгороди и так их оставили... Места для процессии стало больше... Из-за такой перестановки люди хотя и не перестали уважать тех, кто похоронен в могилах, ходили и без угрызений совести по могилам наших предков. Пример этот, один из тысячи, кажется мне характерным для выражения отношений и условий, среди которых я вырос* Юз. Эд. Пузына».

*Перевод с польского Панасюк Ларисы Константиновны.*

Вот так была совершено первое кощунство над памятью тех, кто построил третье здание Остромечевской церкви в 1840 году. Плиты были с фамилиями, именами и датами. Сегодня уже никто не может сказать, когда исчезли надписи... Некоторые говорят, что это произошло в 1940 году, после известного освобождения Западной Белоруссии и Украины, а другие говорят *(Мулявко В. Г. видел их в период с 1949 по 1952 годы),* что это произошло по какому-то неизвестному постановлению органов советской власти. Очевидно, «атеизм 50-х годов XX века» не обошел нашу церковь, и все надписи на плитах были заштукатурены или уничтожены?... И несмотря ни на что, наша церковь не была закрыта никогда: ни в царские, ни в польские и ни в советские времена благодаря ее прихожанам, настоятелям и уроженцам села, которые смогли отстаивать свои права на свободу вероисповедования. А то, что покоится здесь прах людей, на средства которых и было построено 3-е здание Остромечевской церкви, подтверждается воспоминаниями Юзефа Эдварда Пузыны (1800–1874 гг.), которые прислал правнук Ю. А. Пузына.

**Захоронение *(1-е)* под плитой, *в середине,* с гербом *«Рох-III»* — *Антоний Сузин (1750–183?),***
*сын Людвика Станислава Сузина.*

**Захоронение *(2-е)* под плитой, *справа от средней,* с гербом *«Рох-III»* — *Юлиан Сузин (1780–183?),***
*сын Антония и Анны Сузиных (в девичестве О'Берн), он же брат Анны Сузиной (178?–1846) и Августина (1800–187?) — его имение было в Ходосах, недалеко от села Дмитровичи на Каменетчине.*

***Захоронение (3-е) под плитой слева* с гербом *«Рох-III»* — *Анна Сузина (в девичестве О'Берн),***
*т. е. жена Антония и матерь троих перечисленных детей.* Она прожила долгую жизнь *(1760–1850 гг.),* на четыре года пережив свою дочь Анну (1780–1846). Построила за свои деньги в 1840 году, совместно с пожертвованиями прихожан села Остромечево и прихожан шести окрестных деревень, 3-е здание каменной церкви, на что есть документальное подтверждение в книге.

Царь же со своей свитой, женой и сыном действительно посетил нашу церковь. С тех далеких времен в церкви имеется небольшой стенд в подтверждение факта, описанного выше, копию которого мне прислал настоятель Остромечевской Свято-Михайловской церкви, отец Владимир в декабре 2017 года.

В заключение хочу сказать, что наша сегодняшняя православная Свято-Михайловская церковь *(третье здание)* в 2017 году отметила свой 177-летний юбилей. Нет больше вокруг церкви вековых лип, ровесниц храма, зато радует глаз благоустроенность территории. У входной двери в церковь прикреплена памятная доска, подтверждающая принадлежность Свято-Михайловской церкви д. Остромечево к числу памятников архитектуры.

Желаю моим дорогим землякам, уроженцам села и хуторов Остромечева, нынешним жителям Остромечева здоровья и многие лета под ясным мирным небом, и пусть путеводной звездой в вашей мирской жизни всегда остается Господь Бог, веру в которого, на протяжении многих лет пытались вытравить ярые атеисты, надеюсь, что эти времена канули в Лету!..

А самая главная цель моей публикации заключается в том, чтобы в текущем 2018 году, к памятнику были возвращены плиты на свои былые места, т. е. между стеной церкви и лицевой стороной креста с распятием и гербом Сузиных и Костюшек и уложены над прахом покоящихся, а на них помещены небольшого размера памятные доски с надписями тех, кто здесь покоится. Такое деяние будет лишь во благо будущим поколениям не только *«остромычивцюв»*, но и всех прихожан, а также и гостей. Возможно, увидев фамилии на памятных досках, изъявят желание сюда приезжать и потомки этих людей... Ведь хранят же они письменные воспоминания о них до сегодняшнего дня!.. Уверен, что однажды они приедут на родину своих предков... А живут потомки Сузиных и Пузынов в Англии, Польше, Австралии, Америке, Германии, Италии и в других странах.

Юзеф Анджэй Пузына в своем первом письме выразил готовность профинансировать реставрацию надгробных плит с надписями, *остромычивцям* будет тоже интересно знать об истории этих людей. О них вспоминали жители нашего села Остромечево все послевоенные времена, в 50–80 годы XX столетия — прадедушки, дедушки и бабушки добрыми словами, даже в годы советского атеизма.

И последняя моя просьба к уроженцам, детям и внукам тех, кто проживал в Остромечеве на протяжении последних 80-90 лет, к фотографам, журналистам 40-х и 50-х годов XX столетия: возможно, у кого-то в семейных альбомах хранятся фотографии с видом на памятник семьи Сузиных, на плиты с надписями, пришлите мне их копии. Может быть, на них сохранились надписи тех времен...

Вы прочитали о трех представителях княжеского рода Сузиных, похороненных у церкви: *Антонии* и его жене *Анне*, и их сыне *Юлиане. Годы рождения известны всех,* а вот годы смерти у отца и сына стоят приблизительно... Они близки к истине, но последней цифры у Юлиана и его отца нет. В одном из писем сказано, что Антоний умер, не успев выдать замуж своих дочерей, а Розалия выходила замуж *20 октября 1840 года.* Также и с Юлианом... Буду благодарен всем, кто отзовется на мою просьбу, ведь это наша с вами малая родина, которую мы всегда помним и вспоминаем с чувством тоски по ней...

*С искренним уважением, уроженец хутора Лыпкы села Остромечево, учитель-ветеран, краевед, автор книги* «Остромечево и «остромычивцы»

***Иван ПАНАСЮК***

## З успамін мясцовых жыхароў

# Адкуль пайшла назва вёскі Чэрск?






*Запісала студэнтка 1-га курса спецыяльнасці «Беларуская філалогія (літаратурна-рэдакцыйная дзейнасць)» Качалоўская Юлія Якаўлеўна ў в. Чэрск ад ХАРС Марыі Рыгораўны (1943 г.н., сярэдняе, правасл., мясцовая).*

*— Мяне вельмі цікавіць адкуль пайшла назва вёскі Чэрск. Вы мне можаце пра гэта расказаць?*

— Больш як трыста гадоў таму назад, у час Паўночнай вайны Пятра І, у нашы лясы бяжаў ранены чэркес. Ён натрапіў на невялікую рачулку. Каля рэчкі знайшоў ён лекавыя травы, якімі вылечыў свае раны. На тым месцы, дзе зараз стаіць капліца, чэркес зрабіў сабе зямлянку і стаў у ёй жыць. Да яго прыходзілі людзі з бліжайшых хутароў. Чэркес дапамагаў ім, лячыў лекавымі травамі. Вестка пра чэркеса распаўсюдзілася далёка. Калі чэркес памёр, людзі ў добрую памяць аб ім на тым месцы, дзе ён жыў, пабудавалі капліцу. Паступова сюды пачалі перасяляцца сяляне. Так вырасла вёска, якую ў гонар, у пашану чэркеса назвалі Чэрск.

*Запіс 2015 г.*



## Ціна ХУТАРАНКА

# Купрыян

— Аднойчы я пачула выказванне пра людзей, у якім аўтар параўноваў іх з каласамі. Кінутыя ў зямлю зярняткі прарастаюць рунню, на якой з цягам часу вырастаюць каласы. Цвітуць, спеюць, а праз час адыходзяць у нябыт.

Наогул яно то так... Але да гэтай думкі я б дабавіла яшчэ адну фразу:

— Аб лёсах людзей можна казаць тое, што яны больш падобныя на кветкі, паміж якімі дзе-нідзе прарастае пустазелле.

У сваіх велавандроўках па наваколлі мяне вельмі радаваў краявід з чырваннѐю дзікіх макаў, ці блакітам васількоў. Нібы кроплі крыві чырванелі макі на зялёным фоне травы. А васількі нагадвалі маленькае сіняе мора, якое заквітнела на саўгасным бульбяным полі. Кожны раз я з замілаваннем глядзела на гэтую прыгажосць і старалася сфатаграфаваць яе, каб занесці ў свой камп'ютар. Атрымліваліся выдатныя здымкі. Потым, у дажджлівую познюю восень, ці халоднай зімою, пры праглядзе, яны радавалі вока. Асабліва тыя, дзе было зверху сіняе неба і на ім белыя-белыя воблакі. Мая душа вачыма дзіцяці глядзела на гэтае хараство і радавалася райскай прыгажосці на гэтым свеце.



Ярашук Купрыян у маладосці

— Божухна! У якім цудоўным краі мы жывем! — у думках усклікала я, і самі сабою прыходзілі ў галаву цудоўныя вершы.

Вось так бывае і паміж людзей. Адны яскрава жывуць, нібы макі, ці рамонкі ў траве, сатвараючы прыгажосць і радасць для астатніх. А другія пражываюць пякучай крапівою, ці нават чортапалохам, якіх людзі абыходзяць бокам...

Чалавек, аб якім хочацца расказаць, жыў у нашым сяле. Яго ніхто ні разу не бачыў хмурым, ад яго ніхто ні разу не чуў з'едлівасці і насмешак. Куды бы ён ні прыходзіў, там заўжды пачынала буяць весялосць. Кожнаму слухачу адразу ж пачынала лагодна ўсміхацца сонейка, а шэрае жыццё станавілася прыгожым, нібы вясёлка...

Ярашук Купрыян — так звалі невысокага, шчупленькага мужычка з чорнымі, нібы вароніна крыло, валасамі і смуглым тварам.

За смугласць скуры і чорны колер валос, чэрнінцы называлі яго паміж сабою «цыганом». А пры размовах з ім, звалі з павагай па прозвішчу ці імені...



Купрыян з ровэрам у горадзе

Прыйшоў Купрыян у сяло ў прымакі да Калішук Алены — рослай, светлавалосай прыгажуні з доўгай пушыстай касою.

Уся сям'я Галэнькі, так звалі яе ўсе аднавяскоўцы, памерла ад сухот. Яна была самай меншай у сям'і. Бацькі, старэйшыя браты і сёстры заражаліся адзін ад другога гэтай хваробай, а потым адзін за адным паміралі.

Праўда, адна з сясцёр яшчэ пры Польшчы выбралася аж у Францыю. Нанялася там у батрачкі ды так між французаў і асела на ўсё жыццё. Жывая яна, ці не? — Галэнька не ведала, бо ні разу не атрымала ад яе ні воднай вестачкі.

А самую Галэньку, як яна расказвала, уратавалі ад сухот свежыя, курыныя яйкі. Хтосьці са старых вясковых людзей падказаў дзяўчынцы, як ёй можна зберагчыся ад смерці:

— Ты, дачушка, пі свежыя яйкі, і чым больш. То тады будзеш жыці.

І Галэнька стала падпільноўваць курэй. Бывала, пачуе, курынае кудахканне ў куратніку, і адразу бяжыць туды. Забярэцца, крадучыся, ў хлевушок, знайдзе ў гняздзе яйка і адразу ж вып'е. Часам дзяўчынка не грэбавала і суседскім катушком. Аб гэтым яна расказвала сама ўжо ў сталым узросце, бо быў жа за ёю такі грэх. Але можа таму і жыла на гэтым свеце...

Калі ўсе з сям'і вымерлі, і дзяўчына засталася сама, то ёй стала страшна знаходзіцца ў бацькоўскай хаце. Там жа іхнавалі сухоты. Імі былі насычаны ўсе сцены, полап і падлога.

А юначцы хацелася, як і кожнаму жывому чалавеку, бачыць сонца і радавацца жыццю.

Аднойчы ёй сасніўся сон, у якім ёй было наказана, што калі яна застанецца ў бацькоўскай хаце, то пойдзе следам за сваімі родзічамі на той свет...

Атрымаўшы ад Бога такое прадказанне, праснулася Галэнька ў халодным поце і цвёрда вырашыла збавіцца ад будынка:

— Яго трэба абавязкова прадаць... Мо, хто-небудзь знайдзецца з пакупнікоў і вывезе са двара.

З таго дня яна больш не пераступіла парог жытла, а перабралася ў невялічкі хлевушок з сенам, што стаяў недалёка ад вуліцы.

Пагалоска аб продажы хацінкі хутка разляцелася па наваколлі. Праз нейкі час знайшоўся купец-пагарэлец з недалёкай вёскі. Прыехаў, агледзеў будыніну і пачаў таргавацца. Галэнька ж прадавала яе толькі пад знос. Многа, ці мала але якіясьці грошы дзяўчына ўзяла.

Праз некалькі дзён купец прыехаў з цэлай брыгадай маладых хлопцаў, і ўсе разам яны хутка разабралі хаціну на бярвенне. Пры гэтым на кожным дылі была зроблена паметка крэйдай, каб пры складанні на новым месцы было лягчэй разабрацца, з якога бервяна пачынаць будоўлю.

З сумам пазірала дзяўчына на руйнаванне роднага гнязда, але што тут зробіш? То відаць такая доля...

Разабраўшы хацінку, купцы дружна пагрузілі дылі на вазы і павезлі ў сваё сяло. Праз два дні ад збудавання на сядзібе, нібы помнік, засталася толькі белая печ і гара смецця з прагнілых саламяных «кулыкаў».

Боллю шчымела сэрца сіроткі:

— Мала таго, што засталася без родных, дык яшчэ і без даху над галавою.

Буйныя слёзы засцілалі вочы і адна за другою каціліся па маладых шчоках. Але дзяўчына не дазваляла сабе адчайвацца, а ўпарта працягвала марыць і з надзеяй глядзець у будучыню:

— Плач-не плач, але нічога не перайначыш. Як-небудзь буду жыці. — шапталі яе вусны. — Прыйдзецца ісці на зіму ў наймы з жытлом. Буду зарабляць і збіраць грошы, то можа калі-небудзь і пабудую новую хатку.

Галэнька была пышнагрудай прыгажуняй. Спявала ў царкоўным хоры. Кавалеры так і ўвіваліся за ёю, але замуж ніхто не браў. Кожны ж у жонкі хацеў узяць багатую ды з добрым прыданым.

А дзяўчына была, наогул, спраўнай. Усё ўмела рабіць. Любая справа так і гарэла ў яе руках. У асноўным, яна нанімалася працаваць да багатых гаспадароў. Асабліва зарабляліся грошы ў час жніва. За дзень цяжкай працы, нанімальнікі плацілі чатыры злотых. Столькі ж каштаваў серп, і столькі ж каштавалі дзявочыя туфлі ў жыдоўскай краме.

Акрамя таго Галэнька была выдатнай ткачыхай. Ткала палатно і прыгожыя ў пераборы дываны. Слава аб яе ўмельству разышлася далёка па наваколлі.

Аднойчы яе наняў на ткацкую работу багаты гаспадар з Блювінічаў. Цэлую зіму дзяўчына жыла там і ткала каляровыя посцілкі. У таго наймальніка была занявесціўшаяся дачка, якой патрабавалася не абы якое, а выдатнае прыданае.

Каб дагадзіць, Галэнька выкладала ўсё сваё ўмельства ў ствараемыя яе рукамі ткацкія ўзоры. Цэлымі днямі прападала за кроснамі, толькі ў нядзельку атрымлівала дзень адпачынку, у які хадзіла ў Чарнаўчыцкую царкву памаліцца Богу.

Вось там яна неяк і пазнаёмілася з невялічкім чарнявым хлопцам, які меў рэдкае імя — Купрыян. У час перапынку паміж ранішняй і абедзеннай літургіямі, дзяўчына выйшла на свежае паветра ў царкоўны двор і стала недалёка ад будынка святыні. Менавіта тады і падыйшоў



Шлюбны партрэт Купрыяна і Галэнькі, 1934 г.

